Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# ГАНДЛЁВЫ БЮЛЕТЭНЬ

## НАРКАМУНУТГАНДЛЯ БССР

РЭДАКЦЫЯ І КАНТОРА
г. Менск, Дом Урада, левае крыло, 4 паверх, пак. № 415.
Тэл. № 22-540.
Кантакар. рах. рэдакцыі №160073 у Бел. адд. Дзяржбанка.

№ 21 (57) | Год выдання 2-гі | 30 верасня 1936 г. | № 21 (57)

# У НАРКАМУНУТГАНДЛІ БССР

З 12 верасня зніжаны цэны на арбузы, замест ранейшай цаны 1 руб. за кгр. устаноўлена: арбузы 1 гатунка 80 к. за кгр., арбузы 2 гатунка 60 к. за кгр.

* * *

Пастановай Наркамунутгандля ад 10 верасня 1936 г. за № 726 пашырана гандлёвая сетка па гандлю мадэльнага абутка па гор. Менску па 2 магазінам: 1 магазін па сістэме Белваенгандля, 1 магазін па сістэме ТПУ НКУС—для чаго ім выдзелен фонд на верасень мес. у 500 тыс. руб.

* * *

Пастановай Наркамунутгандля СССР з 1 лістапада г. г. устанаўліваецца новая паменшаная норма страты па выпечанаму хлебу. Замест існаваўшай раней прадзельнай нормы натуральнай страты ў размеры 0,75 проц., устанаўліваецца 0,65 проц.

* * *

Загадам па Наркамунутгандлю БССР размеркаваны абавязкі паміж Наркомам і нам. Наркома Унутранага гандля па кіраўніцтву аддзеламі, групамі і гаспадарчымі адзінкамі Наркамунутгандля БССР.

Наркомам застаўлена кіраўніцтва за сабой наступнымі аддзеламі і групамі і гаспадарчымі адзінкамі наркамата:

а) Планава-фінансавым аддзелам
б) Спецаддзелам,
в) Аддзелам падрыхтоўкі кадраў.
г) Пам. Наркома па ўчоту і падбору кадраў.
д) Дзяржаўнай Гандлёвай Інспекцыяй,
е) Канвенцбюро,
ж) Праект Бюро
з) Інспектарска-рэвізійнай групай.
і) Арбітражам.
к) Сакратарыятам.

Ускладзена кіраўніцтва на намесніка Наркома т. **Жогава** наступнымі аддзеламі, групамі і гаспадарчымі адзінкамі Наркамата:

а) Аддзелам Прод. і Промтаварнага гандля,
б) Учотна-статыстычным аддзелам,
в) Аддзелам Арганізацыі Гандлёвай Сеці
г) Белдзяржпасрэдканторай,
д) Гандлёвым бюлетэнем
е) Адміністрацыйна-Гаспадарчым Аддзелам.

* * *

Нарком Унутранага Гандля БССР т. **Гурэвіч** адмяніў існуючую практыку прыёмку масла жывотнага гандлюючымі арганізацыямі ад пастаўшчыкоў. Прапанавана ўсім гандлюючым арганізацыям праводзіць прыёмку масла жывотнага выключна пры прад'яўленні сертыфіката Дзяржінспекцыі па якасці. Пры прыёмцы масла абавязкова праверыць тэрмін дзейнічання сертыфіката і ў выпадку сканчэння тэрміна дзейнічання сертыфіката, абавязкова патрабаваць новай ацэнкі сортнасці масла, без чаго масла не прымаць.

* * *

Нарком Унутранага Гандля БССР т. **Гурэвіч** указаў Гомельскаму Горунутгандлю т. **Лейбовічу** і дырэктару Гомельскай канторы Белпромгандля т. **Андросенка** на невыкананне імі пастановы аб разгортванні гандля промтаварамі на цагельных заводах. Прапанавана неадкладна арганізаваць гандаль промтаварамі, адчыніўшы пры цагельных заводах патрэбную колькасць ларкоў у адпаведнасці з планам Наркамунутгандля. Горунутгандлю і канторы Белхарчгандля прапанавана наладзіць своечасовую дастаўку хлеба і хлебабулачных вырабаў на цагельныя заводы, а таксама разгарнуць гандаль прахладжальнымі напіткамі.

* * *

Загадам па Наркамату Унутранага Гандля БССР устаноўлена, што ўсе скаргі працоўных, якія паступаюць у Наркамунутгандаль БССР, накіроўваюцца ў Інспектарска-рэвізійную групу пры Наркоме. Найбольш важныя скаргі дакладваюцца штодзённа Наркому. Адначасова з накіраваннем скаргаў для расследвання і на вырашэнне ў адпаведныя арганізацыі, інспектарска-рэвізійная група паведамляе скаргаўшчыку—каму перададзена яго скарга. Аб усіх фактах затрымкі ў расследванні скаргаў, альбо бюракратычна-фармальнага падыхода да іх разгляду і вырашэння павінна быць дакладана наркому. Не радзей аднаго раза ў месяц Інспектарска-рэвізійная група наркамата правярае становішча спраў па разгляду скаргаў у канторах і торгах сістэмы Наркамунутгандля.



# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Аб несваечасовай пераацэнцы тавараў у магазінах Менпромгандля.

### Пастанова Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР і Ўпаўнаважанага Дзяржаўнай Гандлёвай Інспекцыі пры НКУГ СССР па БССР

17/VIII-36 г. **№ 666** г. Менск.

Праведзенай праверкай пераацэнкі тканін, сукна, шэрсці, абутка і швейных вырабаў па гор. Менску ў адпаведнасці з распараджэннем НКУГ СССР № 12729 ад 24/VII—36 г. устаноўлена:

1. У магазіне № 10 Менпромгандля (заг. магазіна **Эдзін**) з належачых пераацэнцы ў адпаведнасці з распараджэннем НКУГ СССР ад 24/VII-36 г. № 12729, да моманта праверкі (10/VIII-36 г.) не былі перацэнены дзіцячыя бацінкі, бацiст і шыфон.

2. У магазіне № 37 Менпромгандля (заг. магазіна **Аксельрод**) па фактуры Менскай базы Хлопказбыта № 5010 ад 29/VII-36 г. атрыман і прадаваўся сіцец па 2 р. 45 к. метр, замест сапраўднай цаны 2 р. 66 к. Указанае парушэнне цаны на сіцец было дапушчана па віне калькулятара базы Менпромгандля т. **Бернштэйна**.

3. Калькуляцыі тавараў кіруючымі работнікамі Менпромгандля не правяраюцца і не падпісваюцца.

4. Праверкай таксама ўстаноўлена недапушчальныя, нядбайныя адносіны да афармлення фактур на адпускаемыя тавары з боку работнікаў Менскай базы Хлопказбыта, напрыклад, па фактуры № 4824 не паказан артыкул шатландкі, па фактурах №№ 5120, 5123 не паказаны шырыня і артыкул шэвіота і рад іншых фактаў.

Такія адносіны работнікаў Менскай базы Хлопказбыт да афармлення фактур вымушае работнікаў гандлёвых арганізацый, атрымліваючых з базы тавары, пры ўстанаўленні рознічных цэн, звяртацца ў бухгалтэрыю базы з дадатковымі запытаннямі.

Выходзячы з указанага, Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР і Ўпаўнаважаны Дзяржаўнай Гандлёвай Інспекцыі пры НКУГ СССР па БССР пастанаўляюць:

1. Прапанаваць дырэктару Менпромгандля т. **Бронштэйну** абвясціць вымову заг. маг. № 10 т. **Эдзіну** і інструктару Менпромгандля т. **Зарэцкай**, вінаватых у несвоечасовай пераацэнцы ў адпаведнасці з распараджэннем НКУГ СССР ад 24/VII-36 г. № 12729, маючыхся ў гэтым магазіне і належачых пераацэнцы на 25/VII-36 г. дзіцячага абутка і мануфактуры. Гэтыя тавары былі пераацэнены толькі пасля праверкі.

2. Улічваючы, што парушэнне цэн на сіцец у магазіне № 37 дапушчана не з карыснай мэтай і пасля праверкі было зараз-жа выпраўлена,—папярэдзіць дырэктара Менпромгандля т. **Бронштэйна** і калькулятара тавараў т. **Бернштэйна** аб тым, што ў далейшым у выпадку нарушэння цэн яны будуць прыцягнуты да стражэйшай адказнасці.

Прапанаваць дырэктару Менпромгандля т. **Бронштэйну** ў адпаведнасці з пастановай НКУГ СССР ад 16/V-36 г. № 349 у абавязковым парадку праверыць і зацверджаць калькуляцыі тавараў асабіста самаму, або даручыць праверку і зацверджанне іх свайму намесніку.

3. Прапанаваць дырэктару Менскай базы Хлопказбыт т. **Ківовіч** устанавіць такі парадак афармлення фактур на тавары, каб зараз-жа былі знішчаны ўсе адзначаныя праверкай недахопы.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. Гурэвіч**

Упаўнаважаны Дзяржгандальінспекцыі пры НКУГ СССР па БССР **Левін**

---

## Як захоўваюцца правілы гандля мясам у магазінах Менска

### Пастанова Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

19/VIII-36 г. **№ 676** г. Менск.

Праведзенай Дзяржаўнай Гандлёвай Інспекцыяй праверкай захавання розанічнай гандлёвай сеткай г. Менска правіл гандля мясам, зацверджаных пастановай НКУГ СССР ад 15/VI-36 г. за № 791 устаноўлена, што па многім магазінам гэтыя правілы парушаюцца:

1. Рад работнікаў прылаўка не маюць адпаведных атэстатаў на права гандля мясам і не праходзілі тэхвучобы (магазіны Менхарчгандля: №№ 50, 88, 41, 25, 2, Ваенгандля № 6), паасобныя магазіны праводзяць гандаль мясам, не маючы на гэта адпаведнага дазвола Горунутгандля (магазіны Менхарчгандля №№ 41, 82, 37, № 6 Ваенгандля).

2. У радзе магазінаў не вывешаны тэрмометры ні ў гандлёвым залі, і ні ў падсобных памяшканнях, таксама не вывешаны новыя правілы гандля мясам і мясапрадуктамі.

3. У магазінах № 2 Менхарчгандля і № 6 Ваенгандля ў падсобных памяшканнях побач з мясам таксама хаваецца бакалея.

4. У магазіне № 1 ГВК НКУС (заг. мясн. аддзелам **Палойка**)—ярлыкі цэн на мяса адсутнічаюць, не вывешаны правілы гандля. Мяса адпускаецца на брудных вагах (не ачышчаных ад рыбнай шэлухі), магазін карыстаецца неклейменай гіраЙ у 200 гр., прадаўцы мясного аддзела парушаюць санітарныя правілы, працуюць без галаўных убораў, у той час як апошнія віселі побач на сцяне.

Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР пастанаўляе:

1. За грубае парушэнне правіл гандля мясам і санітарных правіл, заг. мясным аддзяленнем маг. № 1 ГКВ НКУС т. **Палойка**—абвясціць вымову.

2. Прапанаваць дырэктару Бакалейна-Гастранамічнай канторы Менхарчгандля тав. **Герчыкаву** і начальніку Ваенгандля тав. **Власенка** ў 3-х дзённы тэрмін ізаляваць хаванне мяса ад бакалеі, для чаго па магазіну № 2 Менхарчгандля зрабіць у выглядзе прыбудовы паасобнае падсобнае памяшканне пад бакалею, а па магазіну № 6 Менваенгандля ў падсобцы зрабіць перагародкі, ізаляваўшы хаванне бакалейных і мясных прадуктаў.

3. Ст. Кансультанту Аддзела Арганізацыі Гандлёвай Сеці тав. **Рубіну** з ліку новых работнікаў мясных магазінаў, не прайшоўшых тэх. вучобы—арганізаваць тэх. вучобу і не пазней 1/Х-36 г. правесці іспыты на прадмет выдачы атэстатаў.

Папярэдзіць гандлёвыя арганізацыі, што з 1/Х-36 г. прадаўцы і рубшчыкі мяса, не здаўшыя тэхэкзамена і не атрымаўшыя атэстата, да работы не будуць дапушчаны.

Указаць кіраўнікам гандлюючых арганізацый (Менхарчгандаль, Менваенгандаль, ГВК НКУС) на недастатковую ўвагу з іх боку да пытанняў захавання правіл гандля па мясу.

Прапанаваць усім арганізацыям, якія праводзяць гандаль мясам, зараз-жа правесці вытворчыя нарады прадаўцоў і рубшчыкаў мяса і дасканала прапрацаваць новыя правілы гандля, зацверджаныя Наркамунутгандлем Саюза ССР ад 15/VI-36 г. № 791.

5. Дзяржгандаль інспекцыі разам з т. **Рубіным** праз месяц паўторна праверыць усе магазіны, гандлюючыя мясам і аб выніках праверкі далажыць мне.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. Гурэвіч**

## Заявы і скаргі працоўных разглядваюць асабіста дырэктары гандлёвых кантор

### ЗАГАД

### па Народнаму Камісарыяту Ўнутранага Гандля БССР

3/IX-36 **№ 227** г. Менск.

Вытваранай па майму заданню інспектарска-рэвізійнай групай Наркамата праверкай рэагавання на скаргі працоўных у апараце Менскага Горунутгандля і Торгаў; Менхарчгандля, Белхарчгандля, Белпромгандля—устаноўлена:

а) Адсутнічае ўлік паступлення скаргаў і не ўстаноўлен кантроль за рэагаваннем на скаргі і дачай адказу скаргаўшчыкам.

б) Кіраўнікі торгаў асабіста разглядам скаргаў і паступаючых заяў не займаюцца.

в) Пасылаемыя механічна скаргі асобным канторам застаюцца без рэагавання і ніякага кантроля за гэтай справай як у Горунутгандлі, так і торгаў не ўстаноўлена.

г) Пры праверцы аказаліся прысланыя рэдакцыямі газет заявы працоўных, на якія няма адказа на працягу 2-х і больш месяцаў (Горунутгандаль, Менхарчгандаль).

Лічучы недапушчальным такія адносіны з збоку Менскага горунутгандля і дырэктароў мясцовых торгаў да разгляду заяў і скарг працоўных—загадваю:

1. Менскаму Горунутгандлю т. **Саф'яну**, дырэктару Белхарчгандля тав. **Крэйніну**, дырэктару Белпромгандля т. **Кантару**, дырэктару Менхарчгандля т. **Флеру**—справай разгляда скаргаў і заяў працоўных займацца асабіста.

2. Завесці такі ўлік, які даваў-бы магчымасць бачыць, калі скарга паступіла, каму даручана праверка, калі выканана і калі дадзен адказ працоўнаму.

3. Прапанаваць дырэктарам торгаў па сваёй лініі праводзіць праверку становішча разгляда скаргаў і заяў працоўных у падведамственых ім арганізацыях.

Папярэдзіць усіх дырэктароў торгаў і саюзных кантор і Горунутгандляў, што ў выпадку выяўлення пры паўторнай праверкі падобных фактаў недапушчальных адносін да разгляда скаргаў працоўных, да іх будуць ужыты суровыя меры спагнання.

Народны Камісар Унутранага Гандля БССР **Н. Гурэвіч**

## За антысанітарыю ў магазіне загадчык Соскін зняты з работы

### ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

14/VIII-36 г. **№ 663** г. Менск.

Мною 13/VIII-36 года пры азнаямленні з работай магазінаў Белплодагародгандля, а таксама асабістага тлумачэння ЧВА дырэктара Белплодагародгандля т. **Гантмана**—устаноўлена:

1. Што ў магазінах гэтай сістэмы праводзіўся продаж груш „гнілка" без папярэдняй пераборкі, сартыроўкі ў саміх магазінах, што прывяла ў зусім недапушчальны згніўшы стан не менш 30 проц. адпускаемых спажыўцу груш.

2. У магазіне № 2 па Няміге выкрыта недапушчальнае антысанітарнае становашча—як у самым магазіне, за прылаўкам, а таксама ў складскім памяшканні. З боку загадчыка магазінам т. **Соскіна** не было прынята ніякіх мер да прывядзення ў парадак магазіна, негледзячы на неаднаразовыя заўвагі з боку работнікаў Наркамунутгандля.

Прапаную:

а) ЧВА дырэктара Белплодагародгандля тав. **Гантману** зараз-жа адхіліць ад работы загадчыка магазіна № 1 **Соскіна** і прыцягнуць яго да суровай адказнасці за дапушчэнне антысанітарнага становішча магазіна.

б) Сёння-ж спыніць водпуск спажыўцу у падобным недапушчальным стане груш „гнілка", дапусціўшы продаж іх толькі пасля папярэдняй пераборкі з тым, каб гэтыя грушы адпускаліся пакупніку як тавар добрай якасці.

в) Забяспечыць магазіны сістэмы Белплодагародгандля неабходным асартыментным мінімумам пладагародніны, а таксама навесці належны парадак па частцы абсталявання вітрын і раскладкі пладагародніны ў саміх магазінах, з абазначэннем ярлыкоў цэн.

Нам. Наркома Ўнутранага Гандля БССР **Жогаў**

## Аб пераапрацоўцы рыначнага фонда тканін у швейныя вырабы

### ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

1/IX-36 г. **№ 702** г. Менск.

На падставе пастановы СПА за № 147 ад 29/III-36 года і № 181 ад 16/IV-36 года—аб прадстаўленні гандлюючым арганізацыям права скарыстання 3% рыначнага фонда баваўняна-папяровых, шэрсцяных, шоўкавых і ільняных тканін для пераапрацоўкі ў швейныя вырабы,—Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР пастанаўляе:

1. Зацвердзіць ніжэйпаказаныя сумы для пераапрацоўкі ў швейныя вырабы ў III квартале 1936 года па гандлюючым арганізацыям: (у тыс. руб.).

| | Сума для пераапрацоўкі. | | | | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|
| | Хлапчатка | Шэрсць | Шоўк | Лён | |
| Белкаапсаюз | 224,0 | 15,0 | 3,3 | 23,0 | 265,3 |
| Белпромгандаль | 250,0 | 57,0 | 33,5 | 43,5 | 384,0 |
| Белваенгандаль | 24,0 | 7,0 | 5,0 | 2,5 | 38,5 |
| Саюзунівермаг | 60,0 | 21,0 | 12,0 | 9,0 | 102,0 |
| Усяго | 558,0 | 100,0 | 53,8 | 78,0 | 789,8 |

2. Пераапрацоўку тканін у швейныя вырабы праводзіць праз наяўную сетку пашывачных майстэрань гандлюючых арганізацый, альбо арцеляў прамысловай кааперацыі, пры чым асаблівую ўвагу звярнуць на выпрацоўку такога асартымента, які неабходны для папаўнення адсутнічаючых у наменклатуры збытавых арганізацый прамысловасці, а таксама вырабаў, маючых павялічаны попыт у гандлюючай сетцы.

3. Для забяспечання развіцця вышывальнага мастацтва беларускага стыля, прапаную гандлюючым арганізацыям заключыць дагавары з промкааперацыяй на выпрацоўку ільняных і шоўкавых тканін, швейныя вырабы вышывальнага мастацтва беларускага стыля ў арганізуемых для гэтай мэты спецыяльных майстэрнях.

4. Прапанаваць гандлюючым арганізацыям прадставіць промтаварнай групе Наркамунутгандля БССР падрабязны матэрыял аб скарыстанні 3% фонда промпераапрацоўкі, паказаўшы асобна асартымент вырабаў вышывальнага мастацтва беларускага стыля.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. Гурэвіч**

## Праз чорны ход

### ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

17/VIII-36 г. **№ 675** г. Менск.

Праведзеным расследваннем фактаў, паказаных у лісту, прысланым Упаўнаважаным Камісіі Савецкага Кантроля па БССР аб скрыўленні савецкага гандля пры адчыненні сельмага ў Васілевіцкім с/савеце, Рэчыцкага раёна,—устаноўлена, што факты, указаныя ў лісту, сапраўды мелі месца:

Заг. сельмага тав. **Науменка Г.** пускаў у магазін да адчынення прыехаўшых з Райсаюза работніц, жонак раённых работнікаў (дырэктар Банка, дырэктар Райзага і інш.), а таксама членаў Рэвізійнай Камісіі Сельпо і сваіх знаёмых праз чорны ход магазіна для атрымання мануфактуры. Мануфактура—хлапчатка знаёмым адпускалася ў неабмежаванай колькасці.

Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР пастанаўляе:

1. Прасіць старшыню Прэзідыума Белкаапсаюза зняць з работы загадчыка Васілевіцкага Сельмага т. **Науменка Г.** за скрыўленне ім палітыкі савецкага гандля.

2. Папярэдзіць старшыню Рэчыцкага Райсаюза тав. **Карпенка** і старшыню Васілевіцкага сельпо тав. **Блізнеца**, што ў выпадку паўтарэння парушэнняў правіл савецкага гандля—да іх будуць прыняты суровыя меры спагнання.

3. Улічваючы, што ёсць сігналы аб такіх-жа фактах у шэрагу іншых раёнаў, прасіць старшыню Белкаапсаюза даць указанне па ўсім раёнам аб праверцы падобных фактаў і прыцягненні вінаватых да судовай адказнасці.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. Гурэвіч**

# ТЫПАВЫ СТАТУТ

## Беларускай Дзяржаўнай Канторы па Гандлёваму Пасрэдніцтву („Гандльпасрэдканторы") Наркамунутгандля БССР.

### I. Агульныя палажэнні

1. Беларуская Дзяржаўная Кантора па Гандлёваму Пасрэдніцтву (Гандльпасрэдкантора) дзейнічае на падставе пастановы Совета Народных Камісараў Саюза ССР ад 4 мая 1936 г. за № 801 і пастановы Наркамунутгандля СССР ад 4/VI—36 г. за № 755.

Кантора знаходзіцца пры Народным Камісарыяце Унутранага Гандля Беларусі і мае сваёй задачай ажыццяўленне дзяржаўнага пасрэдніцтва па гандлю на тэрыторыі БССР.

2. Беларуская Гандльпасрэдкантора з'яўляецца мясцовым органам Наркамунутгандля саюзнага падпарадкавання.

Узаемаадносіны канторы з мясцовымі органамі Наркамунутгандля вызначаюцца Наркамунутгандлем БССР

3. Беларуская Гандльпасрэдкантора абслугоўвае ўсе гандлёвыя і прамысловыя арганізацыі (дзяржгандаль, дзяржпрамысловыя Орсы, спажывецкую і прамысловую кааперацыю, кааперацыю інвалідаў і г. д.), звяртаючыхся да яе на пачатках дагаворанасці.

4. Беларуская Гандльпасрэдкантора ўтрымліваецца за лік сродкаў, атрымоўваемых за правадзімыя пасрэдніцкія аперацыі і аказваемыя паслугі, згодна зацверджанага каштарыса.

5. Беларуская Гандльпасрэдкантора можа мець з дазвола Наркамунутгандля СССР, у парадку, устаноўленым пастановай СНК СССР ад 9/XII-35 г. за № 2623—у раёне сваей дзейнасці, у буйных гарадах і раёнах з развітай мясцовай і саматужнай прамысловасцю—свае аддзяленні і ўпаўнаважаных.

## II. Задачы і функцыі

6. Задачамі Гандльпасрэдканторы з'яўляюцца:

а) Усямернае садзейнічанне развіццю ўнутры і міжабласнога аптовага таваразварота таварамі, выпрацоўваемымі прадпрыемствамі дзяржаўнай і мясцовай прамысловасці, уцільцэхамі вытворчых прадпрыемстваў, кааперацыяй, грамадскімі арганізацыямі, а таксама і садзейнічанне ў рэалізацыі гандлёвымі арганізацыямі тавараў, не маючых попыта ў даным раёне, як-та: малахадавымі, непоўнымі па асартыменту, некамплектнымі, не выкупленымі ў тэрмін пакупнікамі у банкаў, чыгунак і воднага транспарта і г. д.

> Увага: Наменклатура тавараў, якія не могуць з'уляцца прадметам дзейнасці Гандльпасрэдкантор, а таксама тавараў, пасрэдніцкая аперацыя па якіх ажыццяўляецца ў асобным парадку, устанаўліваецца Наркамунутгандлем БССР.

б) Кантроль і нагляд за суровым ужываннем гандлюючымі арганізацыямі ўстаноўленых цэн на тавары, рэалізуемые імі пры пасрэдніцтве Гандльпасрэдканторы.

в) Прыняцце мер да палепшання якасці і асартымента па таварах, рэалізуемых пры пасрэдніцтве Гандльпасрэдканторы, шляхам удасканалення дагаворных умоў, якія датычаць якасці тавараў, тэхнічных умоў, маркіроўкі, а таксама шляхам арганізацыі таварных экспертыз, дачы кансультацый па ўказаных пытаннях, арганізацыі пакояў таварных узораў і г. д.

г) Вывучэнне становішча рынка па таварах, якія ўваходзяць у сферу дзейнасці Гандльпасрэдканторы.

7. Для ажыццяўлення вышэйпаказаных задач Гандльпасрэдкантора выконвае наступныя функцыі:

а) Прыём даручэнняў па выяўленню попыта і прапаноў тавараў ад усіх гаспадарчых арганізацый і прадпрыемстваў, знаходзячыхся як у раёне дейнасці Гандльпасрэдканторы, так і ўне яго;

б) пасрэдніцтва па куплі і продажу тавараў паміж гаспадарчымі арганізацыямі і прадпрыемствамі, у мэтах пашырэння ўнутрыабласнога і міжабласнога таваразварота;

в) афармленне здзелак на продаж і пакупку тавараў як паміж прысутнічаючымі, так і паміж адсутнічаючымі кантрагентамі—на ўмовах, узгодненых паміж бакамі і вядзенне ўліка адзначаных здзелак.

> Увага: Парадак заключэння здзелак праз Гандльпасрэдкантору і парадак уліка іх вызначаецца Наркамунутгандлем СССР;

г) выкананне даручэнняў гаспадарчых арганізацый і прадпрыемстваў па закупцы і продажу тавараў за лік сродкаў апошніх. Парадак выканання ўказаных даручэнняў вызначаецца асобымі правіламі Наркамунутгандля СССР;

д) складанне планаў сваёй дзейнасці і прадстаўленне іх на зацверджанне Наркамунутгандля СССР і БССР;

е) арганізацыя гандлёвай інфармацыі шляхам выдання бюлетэней аб становішчы попыта і прапаноў тавараў, з паказаннем цэн на іх, а таксама кан'юнктурных аглядаў на паасобныя тавары і г. д.;

ж) абслугоўванне гаспадарчых арганізацый кансультацыямі, правядзеннем таварных экспертыз, арганізацыя пакояў таварных узораў і г. д.;

з) устанаўленне неабходнай сувязі ў сваёй рабоце з мясцовымі гаспадарчымі арганізацыямі і прадпрыемствамі шляхам склікання нарад і стварэння таварных секцый з прадстаўнікоў паказаных арганізацый і прадпрыемстваў, а таксама шляхам наладжвання сустрэч гаспадарнікаў для вывучэння кан'юнктуры, выяўлення і актывізацыя попыта і прапаноў па таварах, з'яўляючымся аб'ектам дзейнасці канторы, для распрацоўкі мерапрыемстваў па палепшанню таваразварота па гэтых таварах і г. д.

## III. Сродкі

8. Сродкі гандльпасрэдканторы, неабходныя для пакрыцця яе выдаткаў, ствараюцца з процантных налічэнняў з сум здзелак, утвараемых пры яе пасрэдніцтве, з паступленняў за кансультацыі, экспертызы і іншыя віды абслугоўвання, з даходаў ад выдавецтва і г. д.

9. Шкала процантных налічэнняў (такса платы) за пасрэдніцтва пры заключэнні здзелак, стаўка за экспертызы і кансультацыі і іншыя віды абслугоўвання ўстанаўліваюцца Наркамунутгандлем СССР і БССР.

10. Усе сродкі, атрымліваемыя Гандльпасрэдканторай за ўтвараемыя ею пасрэдніцкія аперацыі і аказваемыя паслугі, а таксама іншыя даходы—канцэнтрыруюцца ў Гандльпасрэдканторы і выдаткоўваюцца ў строга ўстаноўленым парадку НКУГ СССР.

11. Утрыманне апарата і іншыя выдаткі Гандльпасрэдканторы праводзяцца па распараджэнню Наркамунутгандля СССР і БССР за лік паказаных у п. 10 цэнтралізаванага фонда—па каштарысах, зацверджаных Наркамунутгандлем СССР і БССР у ўстаноўленым парадку.

Штат Гандльпасрэдканторы зацвярджаецца ў устаноўленым парадку.

12. Дзяржгандльпасрэдкантора не нясе матэрыяльнай адказнасці па здзелках, заключаных пры яе пасрэдніцтве.

## IV. Кіраўніцтва

13. Кіраўніцтва Гандльпасрэдканторай ажыццяўляецца дырэктарам, зацверджаным Народным Камісарыятам Унутранага Гандля СССР, па прадстаўленні Наркамунутгандля БССР.

14. Дырэктар Гандльпасрэдканторы вядзе ўсю аперацыйна-гаспадарчую і адміністрацыйную работу ў адпаведнасці з гэтым статутам і на падставе адзінаначалля.

15. На дырэктара Гандльпасрэдканторы ўскладаецца:

а) Прыём і звальненне служачых, заключэнне калектыўных і працоўных дагавароў;

б) Арганізацыя ва ўстаноўленым парадку сеткі аддзяленняў і ўпаўнаважаных, кіраўніцтва імі, дача ім неабходных указанняў і інструкцый;

в) Заключэнне дагавароў і здзелак, а раўна ўтварэнне неабходных юрыдычных дзеянняў,—у тым ліку выдача даверанасцей;

г) Распараджэнне сродкамі, прадастаўленымі Гандльпасрэдканторы Наркамунутгандлем СССР па спецыяльных каштарысах на ўтрыманне апарата і інш. выдаткі;

д) Правядзенне ўсіх неабходных банкаўскіх аперацый, у тым ліку адчыненне і зачыненне бягучых рахункаў у Дзяржбанку і іншых крэдытных установах;

е) Прадстаўленне Наркамунутгандлю СССР і БССР перыядычнай справаздачнасці—статыстычнай і бухгалтарскай і агульных справаздач аб дзейнасці Гандльпасрэдканторы па адпаведных формах;

ж) Прадстаўніцтва ў дзяржаўных, прафесіянальных і грамадскіх арганізацыях па пытаннях, якія адносяцца да дзейнасці Гандльпасрэдканторы;

з) Права іска і адказа ў судзе і арбітражы па справах гандльпасрэдканторы.

16. Назначэнне, звальненне і перамяшчэнне намесніка дырэктара і ст. бухгалтара Гандльпасрэдканторы робіцца па прадстаўленню дырэктара яе тым органам Наркамунутгандля СССР, пры якім знаходзіцца Гандльпасрэдкантора.

## V. Спыненне дзейнасці

17. Спыненне дзейнасці Гандльпасрэдканторы праводзіцца па пастанове Наркамунутгандля СССР у парадку, ім устаноўленым.

У тым-жа парадку вызначаецца назначэнне астатка сродкаў і маемасці Гандльпасрэдканторы.

# Ц Э Н Ы

## Адпускныя цэны на вырабы прамысловых арцеляў БССР

Наркамунутгандаль БССР устанавіў наступныя адпускныя цэны франка-вытворчасці на вырабы з непланавай сыравіны (пастановы Канвенцбюро пры Наркамунутгандлі БССР ад 3 і 20 жніўня 1936 года).

### А. Гомельскі Скурпромсаюз.

1. Балеткі скураныя, для дарослых, прашыўныя, гумавая падашва, на тэкстыльнай падкладцы 7 р. 50 к.
2. Балеткі парусінавыя для дарослых, механіч. прашыўныя, на тэкстыльнай падкладцы і гумавай падашве 6 р. 10 к.
3. Балеткі скураныя, дзіцячыя, механічн., на тэкстыльнай падкладцы і скуранай падашве 5 р.
4. Балеткі скураныя для дзяцей школьнага ўзроста, механіч., прашыўныя, на гумавай падашве 5 р. 50 к.
5. Туфлі дзіцячыя, шэўрэт, механіч., на скуранай падашве і тэкстыльнай падкладцы 8 р. 70 к.
6. Чувякі (вываратк) для дзяцей школьнага ўзроста, уцільныя, на гумавай падашве 4 р. 65 к.
7. Балеткі брэзентавыя, уцільныя, дзіцячыя № 28—30, на скуранай падашве 4 р. 60 кап.
8. Балеткі брэзентавыя, уцільныя, дзіцячыя № 22—25, на скуранай падашве 3 р. 55 кап.

### Б. Арцель імя Крупскай—Менск.

9. Дзіцячы касцюмчык з бавуўн. папяровай пражы (блузка і трусы, або блузка з юбкай) 1 гатунка № 4—6 руб. № 6—6 р. 50 кап. № 2—5 р. 50 к.

### Арцель „Чырвоны трыкатажнік“—Менск.

10. Рэйтузы жаночыя, бав. папяровыя № 6—4 р. 70 к.
11. Касцюм жаночы, бав. папяровы 20 р. 40. кап.

### Арцель „Чырвоны шорнік“ Гомель БКПС.

1. Шчотка абутковая з конволаса з дрыўлянай ручкай 2 р. 10 кап.
2. Шчотка конская з конволаса з дрыўлянай ручкай 2 р. 50 к.
3. Шчотка для чысткі прымусоў з шчаціны на дроту 29 кап.
4. Шчотка для чысткі лампавых сцёкал з конволаса на дроту 53 кап.
5. Шчотка для чысткі бутэляк з конволаса на дроту 43 к.
6. Рэмяшок для гадзіннікаў, двайны, з уціля 1 р. 15 к.
7. Рэмяшок для гадзіннікаў, адзінарны з уціля 60 к.

### Арцель „Чырвоная Ніць“—Магілеў.

9. Вяроўка трайнік 6—8 м/м, з катаніна за тону 3880 р.

### Арцель імя „Фрунзе“—Менск.

10. Грэбень-расчоска дублярна-цэлулоідны 1 гатунка за дзесятак 9 р. 70 кап.

### Арцель „Прагрэс“—Бабруйск.

11. Партфель з гралікса з адным замком 16 руб.

### Менскае заводакіраўніцтва Саюзхарчтары.

12. Бочка асінавая заліўная 71×47 м/г на 4 жал. абруч. на 125 л.—22 р. 72 к.
13. Бочка асінавая заліўная 50×40 м/г на 4 жал. абруч. на 60 літр. 17 р. 15 к.
14. Бочка дубовая заліўная 50×40 м/г на 4 жал. абруч. на 60 літр. 18 р. 15 к.
15. Бочка дубовая заліўная 71×54 м/г на 4 жал. абруч. на 160 літр. 33 р. 70 к.
16. Бочка асінавая заліўная 81×53 на 4 жал. абруч. ёмк. 200 л. 28 р. 52 к.
17. Бочка асінавая заліўная 63×55 на 4 жал. абруч. ёмк. 140 л. 22 р. 25 к.
18. Бочка асінавая заліўная 50×42 на 4 жал. абруч. ёмк. 60 л. 18 р.
19. Бочка асінавая заліўная 78×68 на 4 жал. абруч. ёмк. 250 л. 32 р. 35 к.
20. Бочка асінавая заліўная 81×50 на 4 жал. абруч. ёмк. 185 л. 25 р. 80 к.
21. Бочка асінавая заліўная 70×56 на 4 жал. абруч. ёмк. 125 л. 21 р. 25 к.

# ГРАНІЧНЫЯ ГАНДЛЁВЫЯ НАКІДКІ НА ТАВАРЫ III ГРУПЫ

## Наркамунутгандлем устаноўлены новыя гранічныя гандлёвыя накідкі на тавары III групы ў наступным размеры:

| | Па гораду | ПА СЯЛУ | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Да 7 клм | Ад 7 да 30 клм | Ад 31 да 60 клм | Ад 61 да 80 | Ад 81 і далей | |
| 1. Хусткі розныя (не увах. у гр. бав. папяров. і ільняных) | 7 | 10 | 10 | 10 | 10 | 10 | 1. Хусткі бав. папяр. па гораду 4%, сялу 7% |
| 2. Галаўныя ўборы (апрача фетра-фільцэвых капелюшаў і калпакоў) | 12 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 2. Хусткі ільняныя гор. 11,1%, сяло 12,3% |
| 3. Шоўк. тканіны, хусткі і гатов. шоўкав. аддзенне | 15 | 15 | 15 | 15 | 15 | 15 | |
| 4. Футравыя тавары. | | | | | | | |
| а) Па ўсіх вырабах з крата (шкурках, футрах, каўнерах, шапках, верх. адзенне і інш.) | 6 | 6 | 6 | 6 | 6 | 6 | |
| б) Па ўсіх дзіцячых пушна-футравых вырабах | 6 | 6 | 6 | 6 | 6 | 6 | |
| в) Па ўсіх іншых пушна-футравых вырабах | 14 | 14 | 14 | 14 | 14 | 14 | |
| 5 Фарба адзежная і сінька | 25 | 28 | 29 | 30 | 32 | 33 | Накідка ўжываецца на фарбы, адсутнічаючыя ў прэйскуранце рознічных цэн. |
| 6. Фарба будаўнічая і земляная | 35 | 36 | 38 | 40 | 42 | 44 | |
| 7. Каламазь | 30 | 35 | 35 | 35 | 35 | 35 | Плюс факт. фрахт гуж. |
| 8. Дзёгаць і інш. хім. тавары | 27 | 30 | 30 | 30 | 30 | 30 | |
| 9. Мэталавырабы (не ўваходзячыя ў прэйскурант рознічных цэн і вырабляемыя з непланавай сыравіны і ўціля) | 30 | 35 | 36 | 38 | 40 | 42 | |
| 10. Сел. гасп., садова-гародн. інвентар і рамесляны інструмент (не ўвайшоўшыя ў прэйскурант рознічных цэн) | 25 | 28 | 30 | 32 | 34 | 36 | |
| 11. Каўры | 20 | 20 | 20 | 20 | 20 | 20 | |
| 12. Строчэвальныя вырабы і купоны | 20 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | |
| 13. Гліняна-ганчарная пасуда | 35 | 40 | 42 | 44 | 46 | 48 | |
| 14. Гумавыя вырабы, акрамя цацак (пнэўматыка, пакрышкі, камеры) | 25 | 30 | 32 | 33 | 34 | 35 | |
| 15 Пух—пяро | 25 | 30 | 32 | 33 | 34 | 35 | |
| 16. Шчапны тавар | 25 | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 | |
| 17. Войлак будаўніч. | 20 | 20 | 22 | 24 | 26 | 28 | |
| 18. Валенкі ўцільн. з непланавай сыравіны | 7,5 | 8,7 | 8,7 | 8,7 | 8,7 | 8,7 | |
| 19. Фетравы абутак | 15 | 18 | 18 | 18 | 18 | 18 | |
| 20. Вата | 20 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | |
| 21. Гадзіннікі розныя, акрамя ручных і карманных | 30 | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 | |
| 22. Мыла вадкае і сціральны парашок | 20 | 30 | — | — | — | — | Гуж-накідка, як на мыла гаспадарчае |
| 23. Канц. тавары, акрамя школьна-пісьмовых прылад | 25 | 25 | 25 | 25 | 25 | 25 | |
| 24. Фота тавары і радыё тавары | 25 | 25 | 25 | 25 | 25 | 25 | Акрамя фота-апаратаў |
| 25. Цацкі мясцов. | 20 | 20 | 20 | 20 | 20 | 20 | |
| 26. Цацкі завозн. інагароднія | 30 | 30 | 30 | 30 | 30 | 30 | |
| 27. Інш. непрадукт. тавары, на якія не ўстаноўлены рознічныя цэны і гандл. накідкі | 27 | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 | |
| 28. Вінаградна-фруктова ягадныя вырабы | 15 | 18 | 20 | 22 | 24 | 26 | |
| 29. Віна-водачныя вырабы (акрамя пунктаў месца знаходжання баз і складаў Галоўспірта) | 6 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | Акрамя атрымліваемай скідкі ад прамысловасці. |
| 30. Безалкагольныя напіткі | 20 | 20 | 20 | 20 | 20 | 20 | Плюс фактыч. фрахт і гуж. |
| 31. Кофе-цыкорый прадукты, акрамя кофе натуральн. і сода—прадукты | 25 | 25 | 26 | 27 | 28 | 30 | |
| 32. Розн. спецыі (лаўровы ліст, уксус, перац, гарчыца і інш.), акрамя імпарты., маючыя рознічныя цэны | 26 | 26 | 26 | 26 | 26 | 26 | |
| 33. Інш. прадуктовыя тавары, не маючыя рознічных цэн і цвёрдых накідак | 30 | 32 | 33 | 34 | 35 | 36 | |

# ПОПЫТ І ПРАПАНОВЫ ТАВАРАЎ

## ЛЕСАХІМІЧНАЯ ГРУПА.

### ЁСЦЬ У ПРАПАНОВЕ!

**Сінька** для бялізны, лазуравая ў плітках—10.000 сот. па цане 7 р. 25 кап за сот. зацверджаная Белпромзбытам. Тэрмін адгрузкі неадкладна. Разлік акцэптам.

**Крэм** для абутка чорны і жоўты 10.000 дзес., па цане 2 р. 90 кап. Тара—скрынкі. Разлік акцэптам. 50 проц. дзяржбюджэтнай нацэнкі.

**Смала** будаўнічая—1000 тон. По цане 300 р. тона. Цана зацверджана Белкалесам. Тара—бочкі. Тэрмін адгрузкі—пакватальна. Разлік акцэптам.

**Лак** асфальтавы—500 тон, па цане 1100 р. тона. Тара — бочкі. Адгрузка — пакватальна. Разлік акцэптам.

**Дзёгаць**—хімічны—500 тон па 450 р. за тону Тара—скрынкі. Адгрузка неадкладна. Разлік акцэптам.

**Сургуч** канторскі—30 тон па 2450 р. тона. Тара—скрынкі. Адгрузка—неадкладна. Разлік акцэптам. 33 проц. дзяржбюджэтнай нацэнкі.

**Лак** асфальтавы для пакрыцця жалезных прадметаў—300 тон па 719 р. 60 к. Цана зацверджана Белкалес. Тара—бочкі. Адгрузка пакватальна. Разлік—акцэптам.

**Дэкстрын**—1 гатунак (тэхнічны)—100 т. 1600 р. за тону, для Промкааперацыі, 2320 р. тона для дзяржпрамысловасці. Тара—бочкі, або мяхі. Адгрузка зараз-жа. Разлік акцэптам.

**Фарбы сухія**—зеляніна вапн. светлая і блакітная (блакітнай 20 т.)—усяго 140 тон па цане 950 р. тона цана франка-завод, зацверджаная СНК БССР. Тара—бочкі. Адгрузка пакватальная.

**Мумія сухая**—120 т. па цане 200 р. тона.

**Охра** сухая каленка—20 т. па 500 р. тона, охра жоўтая—20 т. па 275 р. тона, цана фр.-завод зацверджана СНК БССР. Тара—бочкі. Адгрузка зараз-жа. Разлік акцэптам.

**Лак спіртавы** каніфольны 75 проц. эцілав. спірытуса і 25 проц. каніфолі па ўзору—15 тон па цане 5000 р. за тону. Цана зацверджаная Белкаапромсоветам. Адгрузка ў кастрычніку мес. г. г.

**Штучны дзёгаць** для змазкі скуры, абутка і збруі—50 т. па цане 600 р. тона. Франка-вагон адпраўлення. Тара—бочкі. Адгрузка—пакватальная.

**Смала будаўнічая**: торф. смалы 50 проц. дравеснай смалы 20 проц., паўгідрона 15 проц. і шкіпінара—15 проц.—300 т., па 465 р. 38 к. Цана зацверджана Прамкаамсаюзам. Тара—бочкі. Адгрузка—пакватальна.

**Лыка ліпавае** загатоўкі 1936 г., уральскае дл. 2,5—3,5 метра, таўшчыня ў корані 3—6 с/м I гатунка—50 т., па цане 1170 р. за тону. Навалам у пачках. Адгрузка ў IV кв. г. г. Разлік акцэптам. 15 проц. аванс для вывазкі да чыгункі.

**Бочкі** новыя, асінавыя, залівачныя, размерам 80×53 с/м на 4-х жалезных абручах—100 шт. па 28 р. за шт. Цана зацверджана Саюзхарчтара. Адгрузка верасень—кастрычнік. Разлік акцэптам.

Скрыначныя камплекты для памідорных скрынак, з хвойных і ліственых парод, размерам 400×240×130 м/м (стандарт)—115 тыс. штук, па цане 90 кап. камплект. Цана зацверджана Саюзхарчтара. Адгрузка па 30 тыс. шт. у месяц. Разлік акцэптам.

**Бочкі асінавыя** колатай клёпкі на 10 драўляных абручах, размерам 36×28 с/м. дон'я асінавыя—3000 шт. па 11 р. 50 кап. за шт. Цана зацверджана Канвенцбюро. Адгрузка—верасень—кастрычнік. Разлік акцэптам.

**Кола** пад жалезны ход сялянскага тыпа, абод дубовы і ясеневы, спіца дубовая і ясеневая, ступіца—бярозавая 5000 стан. па 65 р. за стан. Цана зацверджана Канвенцбюро. Адгрузка ў кастрычніку мес. г. г. Разлік акцэптам.

**Клейбомаса** для склейвання толі і рубероіда—склад: 60% каменна-вугальнай смалы, 10% сасновай смалы і 30% тарфяной смалы, у колькасці 950 тон па 267 р. 90 кап. тона. Цана зацверджана Канвенцбюро. Адгрузка—пакватальна. Франка-завод прадаўца. Разлік акцэптам.

**Вугаль** сасновы рэтортны без галавешак, вільготнасцю не больш 10%, дробнага 25 *мм.* не больш 20% у колькасці 1000 тон па 185 р. тона фр.-вагон адпраўлення. Цана зацверджана Канвенцбюро. Адгрузка пакватальна.

**Коламазь** галіпотная—нафцяная, расфасованая ў 100—110 кгр. бочках, маркіраваных брутто—нетта—100 тон па 417 р. 92 к. за тону, фр.-вагон адпраўлення. Цана зацверджана Белкалесаюзам. Адгрузка пакватальна. Разлік акцэптам.

**Дзёгаць** штучны для змазкі абутка, скуры і збруі згодна ўзора, 20 тон, цана 485 р. тона фр.-завод у баках. Па цэнах СТА. Адгрузка лістапад—снежань г. г. Разлік акцэптам.

**Гуталін** чорны для абутка—300.000 шт. банак па 2 р. 80 к. дзесятак+50% дзяржбюджэтнай нацэнкі. Адгрузка лістапад—снежань г. г. Цана зацверджана Канвенцбюро. Разлік—акцэптам (па ўзору).

**Коламазь**—1000 тон па 380 р. тона.

**Кола**—2000 станаў па 65 р. стан.

**Сані** на 4 і 5 капылах 1500 шт. па цане: 4-х капыльн. па 40 р. і 5-ці капыльн. па 5 р. Сані неакованыя, полаз дубовы, ясеневы і грабавы, вязья дубовыя.

**Бочкі** асінавыя 81×53 см, колатай клёпкі на 12 драўляных абручах па 22 р. 50 к. шт.—5000 шт. Таксама бочкі цыліндрычаскія, размерам 71×47 см.—30 шт. па 13 р. шт. фр.-вагон, ст. адпраўлення.

### ЁСЦЬ ПОПЫТ.

Сода каустычная, Едкі калій, Кіслату саляную 17° па Боме, Вапна негаш., Сода крысталічная для бялізны, Каменна-вугольная смала, Бутэлькі ёмк. 0,5 літраў, Банкі для гуталіна бляшан. ёмк. 35 гр., Кальцынірованая сода, Парафін белы, Сернай шчолачы (гловерная акумулятарн.). Жалеза абручное шыр. ад 22 мм. да 30 мм., таўшчынёй 1, 5—2,0 мм., Гіпсульфіт, Войлак шорны, Экстракт дубовы, Серная кіслата.

Выданне Наркамунутгандля БССР—Дом Урада, 4-ты паверх, пак. 415, тэл. 22-540.
Адк. рэдактар А. Жогаў Адк. сакратар рэдакцыі Б. Маневіч
Галоўлітбел № 5178. Школа ФЗВ друкарні ім. Сталіна. Зак. 1299. Тыраж 750 экз.